НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІШТО НЕ ЗАБЫТАЕ



# МАРТЫРАЛОГ

1/1989

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА ГІСТОРЫКА-АСЬВЕТНІЦКАГА ТАВАРЫСТВА ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ «МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ»

## паведамленне аб таварыстве

Дабраахвотнае грамадскае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі" было створана на Усебеларускім устаноўчым сходзе грамадскіх прадстаўнікоў, які адбыўся 19 кастрычніка 1988 г. у Менску. Ідэя яго стварэньня узьнікла яшчэ летам, неўзабаве пасьля адкрыцьця праўды пра Курапаты. Тады па ініцыятыве Мемарыяльнай і іншых камісіяў Беларускага фонду культуры была ўтворана арганізацыйная група Камітэт "58", якая падрыхтавала праекты статута і дэкларацыі таварыства і сумесна з творчымі саюзамі кінематаграфістаў, мастакоў, пісьменьнікаў і рэдакцыяй газеты "Літаратура і мастацтва" склікала устаноўчы сход. Гэтыя саюзы і рэдакцыя Ліма разглядзелі і прынялі праекты дакументаў таварыства (Дэкларацыі, Статута) і сталі яго ўстаноўчымі арганізацыямі (спонсарамі).

На Устаноўчым сходзе прысутнічала 350 чалавек. Было прадстаўлена кіраўніцтва усіх творчых саюзаў рэспублікі, майстры мастацтваў, дзеячы навукі і культуры, рабочыя і служачыя, студэнты, прадстаўнікі пракуратуры БССР, ЦК КПБ, Мінгарвыканкама, грамадскія ініцыятары з усіх вобласьцяў Беларусі, госьці з Літвы і Арменіі.

Не драмалі, аднак, і сілы бюракратычнай рэакцыі. Яшчэ за дзьве гадзіны да пачатку сходу у зале зьявіліся некалькі дзесяткаў мужчын у цывільным (некаторыя з добрай выпраўкай), адмовіліся рэгістравацца і занялі месцы. Потым іх паболела. Каля ста чалавек не прайшлі рэгістрацыю.

Тым не менш арганізатары Устаноўчага сходу аб"явілі, што усе прысутныя карыстаюцца аднолькавым правам голасу і галасуюць па усіх пытаньнях.

У прэзідыум сходу выбралі Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Янку Брыля, Пятро Бітэля, Анатоля Вярцінскага, Аляксандру Галадзед, Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Юрыя Дракахруста, Міхала Дубянецкага, Маю Кляшторную, Тадзіяну Кляшторную, Вячаслава Нікіфарава, Зянона Пазьняка, Стэфанію Станюту, Уладзіміра Стальмашонка, Максіма Танка, Тамару Цулукідзэ, Соф"ю Чарвякову, Міхася Чарняўскага, Іосіфа Шадыру.

Перад пачаткам сходу сярод грамадскіх прадстаўнікоў былі распаўсюджаны праекты дакументаў (Дэкларацыі і Статуту), якія потым абмеркавалі і зацьвердзілі з усімі папраўкамі. Зыходзячы з сутнасьці працы, мэтаў і задачаў таварыства прапанавана назваць яго "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ".

Востра праходзіла абмеркаваньне Дэкларацыі і выбары у Грамадскую раду таварыства. Бюракратычныя функцыянеры і тыя, што не зарэгістраваліся і прыйшлі за дзьве гадзіны да пачатку сходу, стараліся ўсяляк перашкодзіць яго нармальнай рабоце, "утапіць" канструктыўныя разважаньні ў дэмагогіі, адвесьці тэму гаворкі ўбок і зацягнуць час, груба ўмешваліся ў працэс галасаваньня. Асабліва нетактоўна і яўна правакацыйна паводзіў сябе супрацоў-

нік ЦК КПБ Р.Бузук, які імкнуўся перашкодзіць вядучаму М.Дубянецкаму весьці галасаваньне.

Ганебныя паводзіны функцыянераў выклікалі асуджэньне нават сярод незарэгістраваных удзельнікаў. Сімптаматычна, што супраць Дэкларацыі з іх асяродзьдзя галасавалі 31 чалавек. Пазьней, калі зацьвярджалі Статут, супроць было ўжо 12 галасоў; калі зацьвярджалі склад Грамадскай рады супроць прагаласавала тры чалавекі; а калі галасавалі за кандыдатуры старшыні і намесьнікаў, супроць не паднялася ніводная рука.

Маральнае і фактычнае паражэньне, якое пацярпела антыперабудовачная рэакцыя 19 кастрычніка, выклікала ў яе функцыянераў шалёную злосьць. У рэспубліканскай і абласной прэсе, якая знаходзіцца пад іх кантролем, і асабліва ў сваіх органах "Вечерний Минск" і "Политический собеседник" партыйныя рэакцыянеры распачалі небывалую дагэтуль кампанію траўлі, шальмаваньня, хлусьні і зьняваг у адрас інтэлігенцыі, моладзі, творчых саюзаў, грамадскіх аб"яднаньняў. Усіх, хто прысутнічалі на Устаноўчым сходзе "Мартыралога", абзывалі "самазванцамі", "нефармаламі", сход "незаконным" і г.д. У сістэме партыйнай прапаганды разгарнулася нястрыманая траўля інтэлігенцыі і грамадскіх аб"яднаньняў. Пачалі шальмаваць Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, Народныя франты Прыбалтыкі. Бюракратыя ў каторы раз паказала сваю палітычную агрэсіўнасьць, нянавісьць да ўсяго беларускага, народнага, да дэмакратычнай салідарнасьці паміж народамі.

Сур"ёзнасьць становішча ў тым, што бюракратычную рэакцыю ў БССР узначальвае партакратыя — тая карпаратыўная палітычная сіла, што не зьяўляецца сама па сабе структурным органам дзяржаўнай улады, але на справе ўзурпіравала ўсе яе функцыі. У часы сталіншчыны і брэжнеўшчыны партакратыя ажыцьцяўляла абсалютную, неабмежаваную самадзяржаўную ўладу і цяпер, вядома ж, не хоча выпусьціць яе з рук. Партакратыя нясе поўную адказнасьць за тое катастрафічнае становішча, у якім апынулася нашая рэспубліка перад абліччам экалагічнага, радыяцыйнага, эканамічнага і культурнага катаклізму. Гэта перш за ўсё яна — партакратыя — давяла да такога стану нашу Беларусь і нашае насельніцтва.

Але, відаць, ведае кот, чыё сала зьеў, калі так баіцца ўсялякай грамадскай ініцыятывы. Пачынаюцца выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Тым, хто ганьбіць наш народ, называе яго адсталым, зьневажае нашу мову, гісторыю, плюе на нашае народнае здароўе, тым, хто нам бессаромна хлусіў і хлусіць, вельмі хочацца быць выбранымі. Ці ўдасца ім і на гэты раз усіх ашукаць?

Зрэшты, нянавісьць да "Мартыралога" з боку рэакцыйнай бюракратыі выклікана не толькі тым, што таварыства падрывае гэтак мілую для іх адміністрацыйна-палітычную сістэму сталінізму. 19 кастрычніка па прапанове прысутных Устаноўчы сход выказаўся за стварэньне Беларускага народнага фронту за перабудову "Адраджэньне".

Абвяшчэньне сьпіска аргкамітэту БНФ было сустрэта бурнымі авацыямі, усе (акрамя некалькіх чалавек) усталі. Характэрна, што з тых прысутных пераапранутых і арганізаваных інкогніта супроць фронту галасавала ўсяго 19 асоб.

Вынікі галасаваньня ўскосным чынам паказалі, што сталінісцкая антыперабудовачная рэакцыя ў рэспубліцы згуртаваная, у асноўным, у верхавіне партакратыі сярод трымальнікаў партыйных партфэляў і наменклатуры. Партыйнае асяродзьдзе вакол яе не вылучаецца пасьлядоўнасьцю. Шмат хто з гэтага асяродзьдзя не можа не бачыць бесперспектыўнасьці палітычнай пазіцыі верхняга эшалона партыйнай улады ў БССР, аднак голасна пра гэта не кажа. Справа ў тым, што камуніст на ніжніх ступенях партыйнай іерархіі поўнасьцю бяспраўная істота ў партыі. Калі ён трапляе ў няміласьць і партыйнае начальства захоча з такім камуністам расправіцца — яно з ім абавязкова паквітаецца і ніхто яго не ўратуе. Калі ж у ка-

муніста хопіць дастаткова характару і адвагі, ён, вядома ж, будзе змагацца і можа нават свайго дабіцца; але якой цаной? Ператварыўшы сваё жыцьцё ў пекла, а здароўе ў руіну.

Шырокае разьвіцьцё Народнага фронту за перабудову павінна стаць падтрымкай для здаровых і цьвяроза думаючых людзей у партыі, для тых кіраўнікоў, якія здольны зразумець, што палітычная будучыня рэспубліканскага партыйнага кіраўніцтва залежыць ад яго падтрымкі ідэй і спраў народнага фронту і ніяк не наадварот. Будучыня за перабудовай, а не за сталіншчынай.

Пасьля 19-га кастрычніка мінская рэакцыя, відаць, страціла раўнавагу. Сьпешна рыхтуецца адпор "зарвавшимся самозванцам". Ад кожнага з 9-ці райкомаў горада выстаўляецца ў сярэднім па 100 чалавек верных байцоў "за перестройку" з ліку партыйнай бюракратыі, камсамольскага актыву і рабочай наменклатуры(рабочых, прылашчаных і распрапагандаваных партакратыяй). Усё гэтае воінства, звыш 900 чалавек, было прывезена на аўтобусах у Дом палітасьветы, дзе 22 кастрычніка мінскі дыскусійны клуб "Современник" (Сучасьнік) ладзіў дыскусію па пытаньнях выбарчай сістэмы. Дом палітасьветы акружыла міліцыя, а "воінства" запоўніла залу і сходу навалілася на ашаломленых арганізатараў дыскусіі, ганьбуючы ідэю Народнага фронту. Усё гэта выглядала даволі камічна, бо ад створанага тры дні назад аргкамітэту БНФ на дыскусіі "Сучасьніка"(дарэчы, далёкай па тэме ад праблем фронта) выпадкова прысутнічаў толькі адзін чалавек. Тым не менш сабраныя "900" прынялі адпаведную рэзалюцыю супроць арганізацыі Беларускага народнага фронту за перабудову з заклікам "призвать к порядку" яго ініцыятараў. Назаўтра з гарачкі ні ў чым не павіннаму клубу "Сучасьнік" адмовілі ў памяшканьні.

Для мінчан гэты няўдалы фарс, разыграны 22-га кастрычніка гарадской партыйна-ідэалагічнай службай, цяпер добра вядомы. І нават яго арганізатары не надта ахвочыя тое ўспамінаць. Тым не менш у 1-м нумары "Политического собеседника" за гэты год зьявілася публікацыя, вытрыманая ў класічных традыцыях сталінісцкай публіцыстыкі 30-х гадоў ( стар.34-36). Там, між іншым, напісана: "уже через три дня "инициативная группа народного фронта", избранная в Доме кино, приготовилась провозгласить "народный" фронт в Белоруссии".(с.34). Далей яшчэ цікавей: "...собравшиеся в Доме политпроса почти единогласно осудили не только программы "фронта", но и самую идею его организации"(с.35); тут жа пішацца, што прысутнымі быў зроблены "взвешенный" і "детальный анализ представленных программ". Разглядаюцца нават недахопы гэтых "программ": "политическая" — "напичкана неприкрытыми политическими устремлениями", а "экономическая" патрабуе свабоднай куплі, прадаваньня і перапрадаваньня зямельных участкаў, вяртаньня памешчыкаў і кулакоў і г.д.

У сапраўднасьці ніякай праграмы Беларускага народнага фронту тады не існавала. Няма яе і на сёньняшні дзень. Толькі ў канцы сьнежня 1988 года падрыхтаваны матэрыялы да праекта гэтай праграмы. Перад самым Новым годам у "Навінах БНФ" надрукавалі частку гэтых матэрыялаў -- разьдзел "эканоміка" -- для абмеркаваньня ў групах падтрымкі. Ні пра якую куплю-прадажу зямлі, памешчыкаў і кулакоў там няма гаворкі. Тое ж, што напісана ў "Политич.собеседнике" звычайнае ашуканства. Зрэшты, каб пералічыць гэтае ашуканства спатрэбіўся б аб"ём тэксту не меншы чым у часопісе. Ды не гонар нам весьці размову з такім рэакцыйным і несумленным выданьнем, як "Политический собеседник".

5-га лістапада 1988 г. Грамадская рада Мартыралогу падала усе дакументы на рэгістрацыю таварыства ў Мінгарвыканкам (згодна існуючых правілаў). Роўна праз месяц, 5 сьнежня з Мінгарвыканкама паведамілі, што паводле заканадаўчай пастановы 1932 года Мінгарвыканкам не павінен зацьвярджаць рэспубліканскую грамадскую ар-

ганізацыю. Дакументы вярнулі. Прытым юрыдычная камісія Мінгарвыканкама выказала некалькі дробных неістотных заўваг па статуце на паўстаронкі тэксту.

Праз некалькі дзён дакументы былі пасланы ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі. У Прэзідыуме вырашылі не мець справы з Таварыствам; выклікалі туды прадстаўнікоў творчых саюзаў (спонсараў) і паспрабавалі на іх націснуць, схіліць да фактычнай ліквідацыі Мартыралога. Пра "Мартыралог Беларусі" і яго статут, назваўшы яго "лухтой", ў зьняважлівай форме выказаўся [illegible] с[illegible] старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г.С.Таразевіч.

4-га студзеня гэтага года на імя старшыні Таварыства з Прэзідыума ВС БССР прыйшла адмова ў рэгістрацыі статута на той падставе, што быццам бы ўстаноўчыя арганізацыі не знаёміліся са статутам і сьпецыяльна яго не разглядалі. (У сапраўднасьці знаёміліся і разглядалі). Адначасна ў творчыя саюзы і ЛіМ быў накіраваны велізарны ліст (7 машынапісных старонак у 1,5 інтэрвала) з Міністэрства юстыцыі БССР за подпісам міністра В.Сукалы.

Гэта ўнікальны дакумент бюракратычнай казуістыкі і жанру. Ліст В.Сукалы перасланы сябрамі таварыства "Мартыралог" у рэдакцыю адной з газет. У наступных нумарах "Мартыралога" чытачы пазнаёмяцца з палажэньнямі гэтага ліста. Ім, пэўна, будзе цікава даведацца, што з тэксту статута: "Кожны сябра Таварыства "Мартыралог", змагаючыся са сталіншчынай, павінен прытрымлівацца гуманістычных прынцыпаў..." — нам прапанавалі "исключить слова "борющийся со сталинщиной"; што,"определяя период репрессий как "геноцид", в уставе допущено искажение исторической действительности, так как создает превратную картину о направленности репрессий..." і г.д.; што ў сваім статуце таварыства памяці ахвяраў сталінізму мы не прытрымліваемся сталінскіх заканадаўчых установак 1932 і 1935 гг. у прыватнасьці "постановления ЦИК и СНК СССР от 1 июля 1935 г. "О порядке проведения добровольных сборов, разрешающих общественным организациям проведение всякого рода сборов только в виде исключения с разрешения Совета Министров СССР" (і гэта ў той час, калі паўсюдна зьбіраюць сродкі ў дапамогу Арменіі); што прадугледжваем ужываньне "хоругви, являющейся предметом религиозного культа" і сімвалам "воинских формирований" і г.д. і т.п. Як казалі чэхаўскія героі — "боты ў сьмятку".

У час траўлі таварыства "Мартыралог Беларусі" адзін з функцыянераў (апаратны работнік Бел.фонду культуры Л.Валяеў), выступаючы перад архітэктарамі, сказаў, што "Мартыралог" можа захапіць палітычную ўладу, а 30 кастрычніка да Усходніх могілак была прывезена "машина камней". Логіка, як у Міністэрстве юстыцыі. Пыха і жабрацтва бюракраты.

На сёньняшні дзень толькі ў Менску зарэгістравана звыш 500 сяброў "Мартыралогу". 27 лістапада леташняга году створана Магілёўскае абласное адзьдзяленьне Таварыства. Старшынёй яго абраны заслужаны дзеяч культуры Валенцін Іванавіч Ермаловіч. Магілёўскае адзьдзяленьне прыступіла да мэтанакіраванай працы.

Расьце колькасьць сяброў "Мартыралогу" ў Гародні (каля ста чалавек), Берасьці, Полацку, Лепелі і іншых гарадах.

Паколькі стала зразумелым, што цяперашняе сталіністкае партыйнае кіраўніцтва рэспублікі і бюракратычнае цемрашальства нізашто не дапусьцяць юрыдычнай рэгістрацыі "Мартыралога Беларусі", таварыства распачынае працу ў абмежаваных варунках, чакаючы перамен, змагаючыся з бюракратычным самадзяржаўем і набліжаючы перамогу перабудовы на Беларусі.

Зянон Пазьняк,
старшыня Грамадскай
рады таварыства.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

Усебеларускі Устаноўчы сход прадстаўнікоў грамадскасьці, склікаюы 19 кастрычніка 1988 года ў горадзе Менску арганізацыйнай групай Камітэт "58" па стварэньню Беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага Таварыства памяці ахвяраў сталінізму, абмеркаваў дакументы, падрыхтаваныя Арганізацыйнай групай, структуру і кандыдатуры ў кіруючыя органы Таварыства і прыняў наступныя рашэньні:

1/ Адобрыць Дэкларацыю і выкладзеныя ў ёй праграмныя задачы, зьмест і накірунак дзейнасьці Таварыства.

2/ Зацьвердзіць Статут і выкладзеныя ў ім ідэйныя, арганізацыйныя і структурныя палажэньні.

Выходзячы з сутнасьці, галоўнай мэты і асноўнага зьместу працы Таварыства, якія прадугледжваюць стварэньне мартыралога Беларусі, прапанавана называцца Беларускім грамадскім гісторыка-асьветніцкім Таварыствам памяці ахвяраў сталінізму "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ" /у скарочаным варыянце Таварыствам "МАРТЫРАЛОГ"/. Назву Таварыства "Мартыралог" лічыць умоўнай да І-й чарговай Канферэнцыі Таварыства.

Устаноўчы сход выбраў Грамадскую Раду Таварыства "Мартыралог", у якую ўвайшлі: Уладзімір Арлоў, пісьменьнік, Алег Белавусаў, кінарэжысёр, Васіль Быкаў, народны пісьменьнік БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі, Алена Белязо, доктар гістарычных навук, Анатоль Вярцінскі, паэт, гал.рэд.тыднёвіка "Літаратура і мастацтва", Вінцук Вячорка, філолаг, Сяргей Грахоўскі, пісьменьнік, Уладзімір Дамашэвіч, пісьменьнік, Сяргей Дубавец, журналіст, Міхал Дубянецкі, пісьменьнік, Аляксей Дудараў, драматург, Міхаіл Жданоўскі, кінарэжысёр, Сяргей Законьнікаў, паэт, гал.рэд.часопіса "Полымя", Віктар Івашкевіч, рабочы, Алена Каламіец, журналіст, Алесь Каско, пісьменьнік, /Берасьце/, Уладзімір Конан, доктар філасофскіх навук, Уладзімір Крукоўскі, мастак, Мікола Купава, мастак, Вячаслаў Ляшковіч, ветэран вайны і працы /Маладзечна/, Віктар Манаеў, актор, Аляксей Марачкін, мастак, Зянон Пазьняк, кандыдат мастацтвазнаўства, Міхаіл Пташук, кі-

нарэжысёр, Тамара Раманькова, выкладчык культасьветвучылішча /Магілёў/, Алесь Рашчынскі, кампазітар, Анатоль Сідарэвіч, журналіст, Міхась Ткачоў, доктар гіст.навук /Гародня/, Міхась Чарняўскі, кандыдат гіст.навук,Эрнэст Ялугін, пісьменьнік.

Старшынёй Грамадскай Рады выбраны Зянон Пазьняк.

Намесьнікамі старшыні: Уладзімір Арлоў, Алег Белавусаў, Алена Бялязо, Уладзімір Крукоўскі.

Выбрана Рэвізійная камісія Таварыства, у якую увайшлі: Рэгіна Гамзовіч, філолаг, Генадзь Каханоўскі, кандыдат гіст.навук, Мікола Назарчук, мастак, Лія Салавей, кандыдат філал.навук, Яўген Шмыгалёў, інжынер-канструктар. (старшыня).

Зацьверджаны аб"ём і перыядычнасьць уплаты сяброўскіх складак /пяць рублёў у год для асоб, чыя зарплата вышэй прадугледжанага мінімуму, і тры рублі у год для студэнтаў і тых, хто атрымлівае мінімум зарплаты. альбо пенсію менш 71 руб.у месяц/. Зацьверджаны працэнт адлічэньняў ад публікацый, зробленых па заданьню і пры матэрыяльнай і арганізацыйнай падтрымцы Таварыства /25 працэнтаў/.

Зыходзячы з неабходнасьці пашырэньня перабудовы на Беларусі і прымаючы пад увагу, што на Устаноўчым сходзе Таварыства прадстаўлены усе творчыя саюзы рэспублікі, працаўнікі навукі і культуры, рабочыя, служачыя, інтэлігенцыя, студэнты, удзельнікі самадзейных аб"яднаньняў і іншыя пласты насельніцтва, сход пастанавіў утварыць пры Беларускім грамадскім гісторыка-асьветніцкім таварыстве памяці ахвяраў сталінізму "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ" грамадскі Арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту за перабудову — "АДРАДЖЭНЬНЕ".

Устаноўчы сход Таварыства "МАРТЫРАЛОГ" зацьвердзіў ганаровых сяброў Таварыства з ліку былых палітзьняволеных і пацярпелых ад сталінскіх рэпрэсій.

Удзельнікі Устаноўчага сходу выказваюць сваю расьцучую падтрымку справе перабудовы і аднаўленьня, распачатай лепшымі сіламі нашага народа і Камуністычнай партыі.

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

Беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ"

Сталінізм, як антычалавечы і антысацыялістычны дзяржаўна-палітычны рэжым, як тэорыя і практыка, нанёс велізарную шкоду нашаму народу.

Сотні тысяч сыноў і дачок Беларусі былі закатаваныя ў сталінскіх турмах, расстраляныя ў месцах масавых забойстваў, памерлі ад непасільнай рабскай працы, ад голаду, холаду і хвароб у канцлагерах.

Сталінскі рэжым прымусова высяліў сотні тысяч жыхароў нашай рэспублікі ў сібірскую тайгу, на далёкую поўнач, у казахстанскія стэпы, дзе яны былі асуджаны на выміраньне або асіміляцыю.

Сталінскія рэпрэсіі канца 20-х—пач.50-х гадоў вынішчалі усё лепшае, актыўнае, разумнае, творчае на нашай зямлі.

Сталіністамі былі вынішчаны ленінскія кадры Камуністычнай партыі, найбольш кваліфікаваныя, сумленныя савецкія, дзяржаўныя і гаспадарчыя работнікі.

Сталіністамі была вынішчана самая працавітая і прадпрыймальная частка нашага сялянства. Рэшту сельскага насельніцтва дэмаралізавалі страхам, прыгоннай працай, хлусьнёй.

Сталіністамі была вынішчана большая частка сьвядомай беларускай інтэлігенцыі — пісьменьнікаў, вучоных, іншых творчых работнікаў. Праводзілася разбурэньне нашай гістарычнай і культурнай спадчыны, выцясьненьне роднай мовы з усіх сьфераў грамадскага жыцьця, чым быў зроблены замах на само існаваньне беларускага народа, як этнічнай асобнасьці.

Імкнучыся да татальнай уніфікацыі, сталіністы душылі самабытнасьць усіх нацыянальных груп насельніцтва, што пражываюць у БССР, вынішчалі іх інтэлігенцыю.

Сякера сталінскага беззаконьня ня літавала ні маршала і акадэміка, ні рабочага і селяніна, ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Мала на Беларусі сем"яў, якіх бы не закрануў сваім чорным крылом сталінскі тэрор.

Злачынствы сталінізму, прамы генацыд у адносінах да многіх сацыяльных груп насельніцтва — гэта злачынствы супроць чалавецтва, ім не павінна быць дараваньня з-за тэрміну даўнасьці, якімі б лозунгамі яны не прыкрываліся.

Наш зварот да трагічных старонак мінулага прадыктаваны адзіным жаданьнем: садзейнічаць выяўленьню поўнай і праўдзівай карціны масавых забойстваў, рэпрэсій і тэрору на Беларусі, каб абудзіць памяць народа, вярнуць яму праўду, справядлівасьць, годнасьць і тым самым прадухіліць у будучым паўтарэньне такіх трагедый, не дапусьціць вяртаньня сталінізму.

Таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі" ставіць задачы:

Высьветліць колькасьць і паіменна грамадзян Беларусі, што загінулі ў час сталінскага тэрору канца 20-х — пачатку 50-х гадоў.

Выявіць месцы масавага зьняволеньня, забойстваў і пахаваньняў ахвяр.

Высьветліць прозьвішчы арганізатараў, выканаўцаў, яўных і тайных памагатых масавых рэпрэсій, тэрору і забойстваў. Паставіць пытаньне аб правядзеньні сьледства і суда над імі.

Патрабаваць судовага працэсу над Сталіным і яго акружэньнем, над сталінізмам.

Дамагацца адпаведных дапаўненьняў Канстытуцыі і Крымінальнага кодэксу БССР аб адказнасьці за злачынствы сталіншчыны, аб нераспаўсюджваньні на гэтыя злачынствы тэрміну даўнасьці.

Стварыць у горадзе Менску навукова-дасьледчы, асьветніцкі, архітэктурна-мемарыяльны комплекс памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі", у які павінны ўвайсьці: мемарыяльны ансамбль у Курапатах, інфармацыйна-дасьледчы цэнтр з архівам, музей, бібліятэка. Ушанаваць помнікамі і абелі́скамі памяць замучаных і забітых у месцах іх пахаваньня па ўсёй Беларусі.

Адкрыць сьпецыяльны рахунак у банку, на які можна будзе перасылаць грошы на помнікі і комплекс "Мартыралог Беларусі".

Выдаваць бюлетэнь "Мартыралог", дзе будзе адлюстравана праца Таварыства, будуць друкавацца дакументы, дасьледаваньні і матэрыялы аб злачынствах сталіншчыны.

Садзейнічаць публікацыі ў перыядычным друку матэрыялаў аб народнай трагедыі, выпуску адпаведных кніг, альбомаў, зборнікаў дакументаў, дакументальных фільмаў.

Хадайнічаць перад Прэзідыумам Акадэміі навук БССР аб выдзяленьні сродкаў для стварэньня пры Аддзеле гісторыі сацыялістычнага будаўніцтва Інстытуту гісторыі сектара па дасьледаваньні сістэмы сталінізму і яго злачынстваў.

Выяўляць і выкрываць тыя сілы, якія будуць перашкаджаць высьвятленьню праўды аб сталінскіх рэпрэсіях і тэроры.

Дамагацца тэрміновай падрыхтоўкі і прыняцьця закона аб архівах з указаньнем тэрміну /ад I да 30 гадоў/, пасьля якога архівы і сховішчы дакументаў КДБ /НКУС/ і іншых устаноў павінны быць рассакрэчаны і стаць агульнадаступнымі. Дамагацца ліквідацыі "сьпецфондаў", "сьпецсховішчаў", усіх праяў "арышту" дакументаў, кніг і перыядычных выданьняў.

Паставіць пытаньне аб строгай справаздачнасьці КДБ і МУС перад Вярхоўным Саветам БССР.

Дамагацца ад дзяржаўных органаў правядзеньня спрыяльнай сацыяльнай палітыкі ў дачыненьні да пацярпелых ад сталінскага рэпрэсіўна-тэрарыстычнага рэжыму, да непрацаздольных асоб з сем"яў замучаных і забітых.

Патрабаваць аднаўленьня народных і гістарычных назваў гарадоў, вёсак, вуліц, плошчаў і г.д., беспадстаўна перайменаваных або забароненых у часы сталіншчыны, вяртаньня гістарычнай назвы сталіцы БССР — МЕНСК.

Вярнуць нацыянальныя асаблівасьці правапісу беларускай мовы, зьнявечанага ў 30-х гадах.

Патрабаваць адмены усіх геаграфічных і адміністратыўных назваў, зьвязаных са сталінскім акружэньнем, зьняцьця мемарыяльных дошак і дэмантажу помнікаў асобам, вінаватым у сталінскіх рэпрэсіях.

Вярнуць дзяржаўнасьць беларускай мовы.

Вярнуць скасаваныя сталіністамі магчымасьці свабоднага разьвіцьця моў і культур усіх нацыянальнасьцяў Беларусі.

Падтрымліваць ідэі і спрыяць арганізацыі грамадскага і маладзёжнага руху, накіраванага на выяўленьне месцаў зьнішчэньня і пахаваньня ахвяраў сталіншчыны, на высьвятленьне імёнаў забітых і іх катаў.

Праводзіць работу ў кантакце з зацікаўленымі савецкімі, дзяржаўнымі і партыйнымі органамі і камісіямі, з прагрэсіўнымі і патрыятычнымі суполкамі, са студэнцкімі і школьнымі групамі пошуку.

Абменьвацца неабходнай інфармацыяй і супрацоўнічаць з аналагічнымі таварыствамі іншых саюзных рэспублік. Імкнуцца да стварэньня Усесаюзнай Канфедэрацыі нацыянальных таварыстваў памяці ахвяраў сталінізму.

Лічыць нацыянальным Днём Памяці на Беларусі традыцыйны восеньскі дзень памінаньня продкаў "Дзяды".

Няхай жа наша праца грунтуецца на прынцыпах XIX партканферэнцыі, якія сьцьвярджаюць дэмакратычны сацыялізм, гуманізм і публічнасьць у нашым грамадстве, на прынцыпах найвышэйшай гістарычнай справядлівасьці: ніхто не забыты, нішто не забытае !

Аднаўленьне памяці і справядлівасьці у дачыненьні да ахвяраў сталінізму — наш палітычны і маральны абавязак. ( 19 кастрычніка 1988г. г.Менск ).

ПІШЫЦЕ НАМ НА АДРАС:

220050, г.МІНСК-50, АБАНЕМЕНТНАЯ СКРЫНКА №284

220050, г.МИНСК-50, АБОНЕМЕНТНЫЙ ЯЩИК №284

# Статут

Беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага
таварыства памяці ахвяраў сталінізму
"МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ" *

Прыняты і зацьверджаны на Усебеларускім Установчым сходзе грамадскіх прадстаўнікоў па стварэньню Таварыства "Мартыралог Беларусі". Менск, 19 кастрычніка 1988 г.

## I. Агульныя палажэньні

I.I. Беларускае грамадскае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму — "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ" /у далейшым — Таварыства "МАРТЫРАЛОГ"/ зьяўляецца ўсебеларускай дабраахвотнай самакіравальнай арганізацыяй, якая ажыцьцяўляе сваю дзейнасьць згодна Канстытуцый БССР і СССР, заканадаўства БССР і іншых саюзных рэспублік, а таксама кіруецца гэтым статутам.

Назва арганізацыі вынікае з галоўнай праграмнай задачы Таварыства — стварэньня МАРТЫРАЛОГУ БЕЛАРУСІ памяці ўсіх замучаных і нявінна забітых у часы сталіншчыны, які ў далейшым можа стаць мартыралогам усёй беларускай гісторыі.

У ацэнцы сталіншчыны Таварыства "Мартыралог" зыходзіць з ацэнак і палажэньняў XX, XXII і XXVII зьездаў КПСС, дакладу М.С.Гарбачова "Кастрычнік і перабудова: рэвалюцыя працягваецца", прысьвечанага 70-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, з мэтаў і задачаў палітыкі перабудовы у СССР; творча разьвівае гэтыя задачы і палажэньні.

---

* Назва "МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ" лічыцца ўмоўнай да I-й чарговай Канферэнцыі Таварыства.
Слова "МАРТЫРАЛОГ" грэчаскага паходжаньня /martyrologos < martyr - сьведка, пакутнік + logos - слова/; абазначае:
1/ пералік асоб, што падвергліся ганеньням, альбо пералік перажытых кім-небудзь пакут, мучэньняў, прасьледаваньняў, альбо сьпіс ахвяраў тэрору, генацыду, масавага вынішчэньня людзей і т.п.
2/ зборнік апавяданьняў пра пакутнікаў.

Ідэйнай сутнасьцю дзейнасьці Таварыства "Мартыралог" зьяўляецца гуманізм.

I.2. Таварыства імкнецца выявіць, дасьледаваць, вывучыць і абазначыць у гісторыі глыбіню трагедыі беларускага народа, што адбылася ў часы сталіншчыны / канец 20-х — пач.50-х гадоў/ у межах яго дзяржаўнай, гістарычнай і этнічнай тэрыторыі — усюды, дзе жыве беларускае насельніцтва.

Дзейнасьць і дасьледаваньні Таварыства "Мартыралог" улічваюць усе нацыянальныя групы жыхароў Беларусі.

Філіі і арганізацыі Таварыства "Мартыралог" могуць утварацца на тэрыторыі іншых рэспублік СССР,* куды было выслана, альбо дзе адбывала зьняволеньне насельніцтва Беларусі незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці.

I.3. Устаноўчымі арганізацыямі Таварыства "Мартыралог" зьяўляюцца: Саюз кінематаграфістаў БССР, рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", Саюз пісьменьнікаў БССР, Саюз мастакоў БССР.

Склад устаноўчых арганізацый можа быць зьменены, альбо дапоўнены Канферэнцыяй Таварыства "Мартыралог", а у прамежку паміж канферэнцыямі - Грамадскай Радай Таварыства.

I.4. Дзейнасьць Таварыства "Мартыралог" заснавана на дабраахвотнай ініцыятыве людзей і арганізацый, гатовых выконваць статутныя патрабаваньні і працаваць над ажыцьцяўленьнем задач, пастаўленых у Дэкларацыі Таварыства; на дабраахвотнай дапамозе устаноў і арганізацый, а таксама грамадзян, якія не будучы удзельнікамі Таварыства, гатовы падтрымліваць яго працу; на супрацоўніцтве Таварыства, яго удзельнікаў і працаўнікоў з дзяржаўнымі і савецкімі установамі, творчымі саюзамі, аб"яднаньнямі і іншымі арганізацыямі, дзейнасьць якіх зьвязана з вырашэньнем праграмных і статутных задач Таварыства "Мартыралог".

---

* Тады яны кіруюцца заканадаўствам тых рэспублік, на тэрыторыі якіх разьмешчаны.

## 2. Асноўныя задачы Таварыства "Мартыралог"

2.I. Асноўнымі задачамі Таварыства "Мартыралог"зьяўляюцца:

а/ Выяўленьне поўнай і праўдзівай карціны масавых забойстваў, рэпрэсій і тэрору на Беларусі у часы сталіншчыны; вывучэньне іх прычын і вынікаў.

б/ Высьвятленьне паіменна колькасьці людзей, што загінулі ў часы рэпрэсій, тэрору і вынішчэньня канца 1920-х—пач.1950-х гадоў на Беларусі, на этнічных тэрыторыях за межамі рэспублікі, дзе жыве беларускае насельніцтва, а таксама ў месцах яго высылкі і зьняволеньня.

в/ Стварэньне мартыралогіі насельніцтва Беларусі,пацярпелага ад сталінскага генацыду.

г/ Увекавечваньне памяці усіх бязьвінных ахвяраў сталіншчыны на Беларусі.

## 3. Дзейнасьць Таварыства "Мартыралог"

3.I. Для ажыцьцяўленьня статутных задач Таварыства праводзіць наступную дзейнасьць:

а/ Агітуе грамадскасьць і мабілізуе грамадскую думку на стварэньне навукова-дасьледчага, асьветніцкага, архітэктурна-мемарыяльнага комплексу МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ у Менску, помнікаў і абеліскаў замучаным і забітым людзям. Выкарыстоўвае пры гэтым грамадска-палітычныя,культурна-нацыянальныя, маладзёжныя, прафесійныя рухі, канфесійную дзейнасьць і іншыя законныя спосабы прапаганды і агітацыі.

б/ Праводзіць збор сродкаў на помнікі і Мартыралог шляхам дабраахвотных ахвяраваньняў і укладаў ад насельніцтва і арганізацый на спецыяльны рахунак Таварыства.

в/ У выпадку, калі рашэньне аб будаўніцтве архітэктурна-мемарыяльнага комплексу "Мартыралог Беларусі" будзе прынята, садзейнічае і ўдзельнічае у яго праектаваньні і пабудове. Пасьля пабудовы спрыяе яго функцыянаваньню, прымае ўдзел у навукова-дасьледчай працы Мартыралога.

г/ Садзейнічае рэабілітацыі, спрыяе сацыяльнай і прававаіі дапамозе нявінна пацярпелым ад рэпрэсій.

д/ Зьбірае любую вусную, пісьмовую, гукавую, відавую і іншую дакументальную інфармацыю, якая датычыць любых фактаў і абставін, зьвязаных са сталінскімі рэпрэсіямі, вынішчэньнем людзей і падзеямі, што спадарожнічалі палітыцы генацыду канца 20-х—першай пал.50-х гадоў; прымае дакументальную інфармацыю ў дар, па тэстаманту, па актавай перадачы арганізацыі.

е/ Складае неабходную картатэку зьвестак, матэрыялаў і дакументаў, забясьпечвае іх улік і захаванасьць; стварае даведачныя матэрыялы.

ж/ Праводзіць дасьледчую і асьветніцкую работу, публікуе дакументы, артыкулы, кнігі, арганізуе лекцыі, даклады, дыспуты, спатканьні, выставы, выдае разавыя і перыядычныя выданьні, стварае дакументальныя фільмы, спрыяе пранікненьню трагічнай тэматыкі народа ў мастацкую творчасьць. Садзейнічае разьвіцьцю палітычнай, прававаіі і культурна-нацыянальнай сьвядомасьці грамадзян, моладзі ў духу непрыняцьця і асуджэньня палітычнай сістэмы сталінізму і сталіншчыны, прымусовых, гвалтоўных, недэмакратычных метадаў вырашэньня сацыяльных, палітычных і эканамічных праблем.

## 4. Структура Таварыства "Мартыралог"

4.І. Кіраўнічымі органамі Таварыства зьяўляюцца:

а/ Канферэнцыя.

б/ Грамадская Рада.

в/ Старшыня Грамадскай рады і яго намесьнікі.

Выканаўчымі органамі Таварыства зьяўляюцца: Выканаўчая камісія і яе Рабочыя групы.

4.2. Кантрольным органам зьяўляецца Рэвізійная камісія.

4.3. Вышэйшым кіраўнічым органам Таварыства "Мартыралог" зьяўляецца Канферэнцыя. Канферэнцыя зьбіраецца адзін раз на год у горадзе Менску. Пры неабходнасьці можа быць склікана нечарговая канферэнцыя па рашэньні Грамадскай рады, Выканаўчай камісіі, альбо І/4 усіх

сяброў Таварыства "Мартыралог". Канферэнцыя прымае Дэкларацыю і Статут, робіць у іх дапаўненьні і зьмены; слухае справаздачныя даклады Грамадскай рады, Выканаўчай і Рэвізійнай камісіяў, распрацоўвае і зацьвярджае праграму працы Грамадскай рады; слухае і зацьвярджае фінансавыя справаздачы Таварыства і зацьвярджае яго гадавыя каштарысы; выбірае Грамадскую раду, старшыню, яго намесьнікаў і Рэвізійную камісію; прымае ў ганаровыя сябры Таварыства "Мартыралог"; зацьвярджае або зьмяняе рашэньні Грамадскай рады аб выключэньні з сяброў і ўдзельнікаў Таварыства "Мартыралог" і інш.

Усе рашэньні Канферэнцыі прымаюцца адкрытым галасаваньнем адноснай большасьцю галасоў пры наяўнасьці кворума /больш палавіны ад агульнай колькасьці дэлегатаў/. Выбары старшыні, намесьнікаў і рашэньні па персанальных пытаньнях праходзяць і прымаюцца тайным галасаваньнем. Пры аднадушным рашэньні усіх дэлегатаў галасаваньне ў адзначаных выпадках можа праводзіцца адкрыта. Усе кіруючыя органы Таварыства выбіраюцца тэрмінам на адзін год.

4.4. Грамадская рада накіроўвае дзейнасьць Таварыства ў перыяд паміж канферэнцыямі. Яна прадстаўляе, прапагандуе і адстойвае агульны сэнс і зьмест працы Таварыства; займаецца пытаньнямі набудовы "Мартыралога Беларусі" і помнікаў ахвярам сталіншчыны, прымае рашэньні аб індывідуальным і калектыўным удзеле і выключэньні з Таварыства; аб узаемаадносінах з устаноўчымі арганізацыямі, аб зьмяненьні і павелічэньні іх колькасьці; прымае рашэньні аб скліканьні гадавой і нечарговай канферэнцыяў Таварыства.

У Грамадскую раду абавязкова ўваходзяць прадстаўнікі устаноўчых арганізацый. Рашэньні Грамадскай рады прымаюцца большасьцю галасоў пры наяўнасьці кворума.

4.5. Старшыня Грамадскай рады і яго намесьнікі ствараюць Выканаўчую камісію з ліку сяброў Таварыства "Мартыралог". У Выканаўчую камісію могуць уваходзіць таксама выбраныя Грамадскай рады, але не больш адной чвэрці кожнага з гэтых органаў.

Выканаўчая камісія зьяўляецца выканаўчым органам

Таварыства і яго Грамадскай рады. Яна вядзе асноўную арганізацыйную, практычную і навукова-дасьледчую працу Таварыства; стварае Рабочыя групы, прылучае да работы сяброў і удзельнікаў Таварыства; дае даручэньні; фармуе дэталёвую праграму дзейнасьці па тэмах і рэгіёнах, займаецца выдавецкай справай і друкам; карэкціруе працу абласных філій і раённых арганізацый Таварыства.

Дзейнасьць Выканаўчай камісіі фармуе і накіроўвае непасрэдна старшыня Грамадскай рады, альбо адзін з яго намесьнікаў. Склад Выканаўчай камісіі зацьвярджаецца Грамадскай радай.

4.6. Абласныя філіі і раённыя арганізацыі Таварыства "Мартыралог" ствараюцца, зыходзячы з неабходнасьці і абставін. Іх утварэньне і статус не абавязкова павінны быць зьвязаны з адміністрацыйным становішчам горада, яго падпарадкаваньнем і сьферай уплыву.

Структура раённай арганізацыі Таварыства залежыць ад колькасьці сяброў і аб"ёму працы. На пачатку дастаткова выбраць старшыню, намесьніка і стварыць рабочую групу.

Пры павелічэньні колькасьці сяброў да 50 чалавек раённая арганізацыя можа утварыць поўную структуру кіраўніцтва /выбраць раённую Грамадскую раду, старшыню, намесьнікаў, Выканаўчую і Рэвізійную камісіі/. У раённую арганізацыю уваходзяць групы садзеяньня.

Пры наяўнасьці пяці і больш раённых арганізацый у вобласьці рашэньнем Грамадскай рады Таварыства "Мартыралог" можа быць створана Абласная філія Таварыства на аснове найбольш моцнай раённай арганізацыі. Абласная філія аб"ядноўвае усе раённыя арганізацыі у вобласьці і можа мець у сваім кіруючым органе іх прадстаўнікоў.

Усе кіруючыя органы раённых арганізацыяў і абласных філіяў выбіраюцца тэрмінам на адзін год. Раз у год адбываюцца раённыя і абласныя канферэнцыі. Тэрмін збору канферэнцыяў вызначае Грамадская рада Таварыства "Мартыралог".

Ва усіх арганізацыях і філіях Таварыства "Мартыралог" прадугледжваецца устаноўленая фінансавая справаздачнасьць, прыём і улік сяброў, удзельнікаў і іншае справаводства.

Рабочай мовай Таварыства "Мартыралог Беларусі" зьяўляецца беларуская мова. Пры гэтым кожны сябра Таварыства можа карыстацца любой іншай мовай, зразумелай прысутным. Справаводства вядзецца па-беларуску.

## 5. Сябры і калектыўныя удзельнікі Таварыства "Мартыралог"

5.1. Таварыства "Мартыралог" складаецца з сяброў, калектыўных удзельнікаў і ганаровых сяброў.

5.2. Сябрамі арганізацыі зьяўляюцца грамадзяне, якія падтрымліваюць Дэкларацыю і задачы Таварыства, падзяляюць яго Статут, аплочваюць сяброўскія складкі, практычна удзельнічаюць у мерапрыемствах і працы Таварыства.

Калектыўнымі удзельнікамі Таварыства зьяўляюцца яго Установчыя арганізацыі, а таксама прадпрыемствы,установы і арганізацыі, якія падзяляюць яго Статут, сістэматычна садзейнічаюць ажыцьцяўленьню Дэкларацыі шляхам практычнай,фінансавай і тэхнічнай дапамогі і ідэйнай падтрымкі.

Ганаровымі сябрамі Таварыства могуць быць запрошаны асобы, якія нявінна пацярпелі ад рэпрэсій, а таксама тыя людзі, што зрабілі істотны ўклад у справу барацьбы са сталіншчынай, у ажыцьцяўленьне праграмных задач Таварыства "Мартыралог".

5.3. Залічэньне у сябры і калектыўныя удзельнікі Таварыства адбываецца па пісьмовай заяве кандыдата на імя старшыні шляхам зацьвярджэньня кандыдатуры Грамадскай радай. У выпадку неабходнасьці Старшыня і Грамадская рада могуць патрабаваць пісьмовага, альбо вуснага заручэньня за кандыдата ад не менш чым двух актыўных сяброў Таварыства.

Залічэньне у ганаровыя сябры Таварыства адбываецца рашэньнем канферэнцыі.

5.4. Сябры Таварыства карыстаюцца правам: выбіраць і быць выбранымі у кіруючыя органы Таварыства; атрымліваюць арганізацыйную, метадычную, творчую, тэхнічную,

матэрыяльную і маральную дапамогу пры правядзеньні працы на карысьць Таварыства і дзеля ажыцьцяўленьня яго Дэкларацыі; ставіць пытаньні перад Грамадскай радай, Выканаўчай камісіяй і Канферэнцыяй аб усіх праблемах, якія датычаць дзейнасьці Таварыства, яго праграм, задач і Статута.

У выпадку адміністрацыйнага, палітычнага, судовага, маральнага і іншага праследаваньня за гуманістычную дзейнасьць, накіраваную на ажыцьцяўленьне Дэкларацыі Таварыства і не супярэчную яго Статуту, кожны сябра арганізацыі атрымлівае грамадскую калектыўную дапамогу і маральную падтрымку Таварыства "Мартыралог".

5.5. Кожны сябра Таварыства абавязаны: выконваць рашэньні Канферэнцыі і Грамадскай рады, прытрымлівацца палажэньняў Статута; садзейнічаць ажыцьцяўленьню Дэкларацыі; працаваць па праграме Выканаўчай камісіі і Рабочых груп; прымаць і выконваць рабочыя даручэньні; аплочваць сяброўскія складкі; праяўляць ініцыятыву у працы і творчасьці; дапамагаць сябрам Таварыства у агульнай рабоце.

Кожны сябра Таварыства "Мартыралог", змагаючыся са сталіншчынай, павінен прытрымлівацца гуманістычных прынцыпаў у маралі, культуры, грамадска-палітычнай дзейнасьці.

5.6. Сябры і калектыўныя ўдзельнікі Таварыства "Мартыралог" могуць выйсьці з яго, пісьмова папярэдзіўшы пра гэта Грамадскую раду, альбо без папярэджваньня. Тады за крытэрый неўдзелу у Таварыстве будзе прымацца адмова працаваць і плаціць сяброўскія складкі.

За сур"ёзныя маральныя, ідэйна-палітычныя і матэрыяльныя страты, нанесеныя Таварыству, а таксама за мэтанакіраванае і злоснае супрацьдзеяньне яго задачам і Дэкларацыі сябры і калектыўныя ўдзельнікі выключаюцца з Таварыства рашэньнем Грамадскай рады. Рашэньне Грамадскай рады аб выключэньні зацьвярджаецца і можа быць зьменена Канферэнцыяй.

## 6. Грашовыя сродкі Таварыства "Мартыралог"

6.1. Грашовыя сродкі Таварыства "Мартыралог"складаюцца з сумы дабраахвотных сяброўскіх і калектыўных складак, ахвяраваньняў, пераводаў, дараваньняў, адлічэньняў ад публікацый, выданьняў, кінафільмаў і іншай працы, зробленай па заданьні і пры арганізацыйнай і матэрыяльнай дапамозе Таварыства.

Працэнт адлічэньня, памер сяброўскай складкі з сяброў і калектыўных удзельнікаў, парадак і перыядычнасьць яе уплаты устанаўліваецца рашэньнем Канферэнцыі.

Ганаровыя сябры складкі не плоцяць.

Сродкі Таварыства разьмяркоўваюцца згодна каштарысаў Выканаўчай камісіі. Каштарысы Выканаўчай камісіі зацьвярджае Канферэнцыя.

Для апаратынага валоданьня уласнымі сродкамі Таварыства мае бягучы рахунак у банку.

6.2. Таварыства распараджаецца сродкамі, якія знаходзяцца на асобным банкаўскім рахунку /спецрахунку/ арганізацыі. Яны фармуюцца з мэтавых дабраахвотных укладаў насельніцтва, калектываў і арганізацый і прызначаны на праектаваньне і пабудову "Мартыралогу Беларусі", на помнікі і мемарыяльныя комплексы ахвярам сталінізму.

Разьмеркаваньнем гэтых сродкаў займаецца Грамадская рада. Каштарысы Грамадскай рады зацьвярджаюцца Канферэнцыяй.

Акрамя асобнага рахунку /спецрахунку/ і бягучага рахунку ва Установах Дзяржбанка СССР Таварыства "Мартыралог" мае таксама валютны рахунак у ЗНЕШГАНДАЛЬБАНКУ СССР.

Таварыства валодае уласнай пячаткай і штампам рэгістрацыі дакументаў.

## 7. Прававае становішча Таварыства "Мартыралог"

7.1. Таварыства "Мартыралог" зьяўляецца юрыдычнай асобай. Яно можа ад свайго імя заключаць пагадненьні і здзелкі з юрыдычнымі і індывідуальнымі асобамі у БССР

СССР і за мяжой, набываць іншыя маёмасныя правы, быць шукальнікам і адказным у судзе і арбітражы.

7.2. Пагадненьні і зьдзелкі ад імя Таварыства "Мартыралог" заключае Старшыня, або адзін з яго намесьнікаў пры ўдзеле фінансава адказнай асобы. У некаторых выпадках пагадненьне і зьдзелка зацьвярджаюцца Выканаўчай камісіяй.

7.3. Таварыства "Мартыралог" нясе адказнасьць па абавязацельствах усёй сваёй маёмасьцю.Дзяржава не адказвае па абавязацельствах Таварыства, Таварыства не адказвае па абавязацельствах дзяржавы.

## 8. Узаемаадносіны з іншымі арганізацыямі

8.1. Таварыства "Мартыралог" узаемадзейнічае з усімі савецкімі, дзяржаўнымі, палітычнымі,грамадскімі, прафсаюзнымі, творчымі, навуковымі, патрыятычнымі, маладзёжнымі, "нефармальнымі" і іншымі арганізацыямі, якія будуць падтрымліваць яго дзейнасьць і садзейнічаць ажыцьцяўленьню яго праграмных задач.

8.2. Таварыства "Мартыралог" супрацоўнічае з аналагічнымі арганізацыямі іншых саюзных і аўтаномных рэспублік СССР, можа стварыць з гэтымі арганізацыямі канфедэратыўныя аб"яднаньні; выступае за ўтварэньне Усесаюзнай Канфедэрацыі нацыянальных таварыстваў памяці ахвяраў сталінізму.

## 9. Сімвалы. Пячатка

9.1. Эмблема. На чырвоным фоне у падоўжаным авале белая на ўвесь рост фігура жанчыны-маці у доўгім адзеньні, у намітцы, з дзіцем на руках. Па абодва бакі фігуры на ўзроўні галавы па краю авала паўкружжам залатымі літарамі напісана: МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ. Фігура сімвалізуе народ, які адраджаецца з сваёй крывавай гісторыі.

9.2. Знак. Літары М Б чырвонага колеру на белым фоне, абмежаваным у квадрат з чорнай рамкай. М Б — пачатковыя літары слоў "Мартыралог Беларусі".

9.3. Харугва. Белае палатно выцягнутай прастакутнай формы вертыкальнай кампазіцыі з выявай эмблемы і

знака. Літары М Б чырвонага колеру разьмешчаны на палатне па баках авалу на ўзроўні галавы фігуры. У ніжняй частцы палатно аздоблена чорнымі махрамі.

Харугва мацуецца вертыкальна на доўгім дрэўцы з крыжавінай.

9.4. Пячатка. Круглай формы. У цэнтры квадратны знак Таварыства, заключаны ў круг. Па кругу і па краях пячаткі двойчы напісана: МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ.

## 10. Зьмена статуса

10.1. У выпадку неабходнасьці зьмяненьня статуса Таварыства рашэньні аб перамене яго функцый, рэарганізацыі і перадачы маёмасьці прымае Канферэнцыя. Рашэньне аб зьмене статуса, рэарганізацыі і перадачы маёмасьці можа быць прынята толькі пры падачы за яго 9/10 галасоў ад усіх дэлегатаў і прысутнасьці 90 працэнтаў усіх выбраных прадстаўнікоў.

# ліст з Наваполацка

Дарагія таварышы!

Прыміце словы падтрымкі створанаму 19 кастрычніка г.г. у сталіцы Беларусі Беларускаму гісторыка-асьветніцкаму таварыству памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі". Мы лічым, што выкананьне рашэньняў XIX партыйнай канферэнцыі аб увекавечаньні памяці ахвяраў рэпрэсій — справа высакародная і пільная. Стварэньне дзеля гэтай мэты грамадскіх арганізацыяў — тым больш, падмацаваных аўтарытэтам шырока вядомых і заслужаных людзей — павінна паспрыяць складаньню поўнага сьпісу ахвяраў сталіншчыны на Беларусі і пабудове помнікаў і мемарыялаў у іх памяць. Такія помнікі і мемарыялы павінны зьявіцца па ўсёй рэспубліцы — там, дзе злачынствы часоў культу асобы папярэднічалі і працягвалі сьпіс злачынстваў гітлераўцаў. Мы не можам зразумець мэтаў некаторых нядаўніх выступленьняў у рэспубліканскім друку (матэрыял "Нам с вами не по пути!" - "Вечерний Минск" за 24.X г.г., артыкул "Пена на хвалі перабудовы" у цэнтральных рэспубліканскіх і абласной газеце за 27-28 кастрычніка), акрамя як СЬВЯДОМА ЗАКЛІКАЦЬ ДА ВЯРТАНЬНЯ ЧАСОЎ БЕЗЗАКОНЬНЯ І АДСУТНАСЬЦІ ГАЛОСНАСЬЦІ.

Створым усе разам велічны "Мартыралог Беларусі", і няхай ён будзе апошнім мартыралогам нашай савецкай зямлі!

Студэнты і выкладчыкі Наваполацкага політэхнічнага інстытута імя ЛКСМБ
( усіх 34 подпісы )

6.XI.88.

# бюракратычныя гульні

Пасьля няўдалага правакацыйнага путча бюракратычнай рэакцыі, арганізаванага 30-га кастрычніка ў Менску сіламі міліцыі і падрыхтаванага ідэалагічнай службай рэспублікі супроць працэсаў перабудовы, адбыліся сходы ў творчых саюзах і установах, дзе былі асуджаны процiпраўныя дзеяньні міліцыі, Мінгарвыканкама і выказаны недавер ідэалагічнаму кіраўніцтву рэспублікі. Бюракратыя, як звычайна, зьвярнулася да сваёй асноўнай палітычнай зброі — хлусьні. Сьпешна была створана тайная камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, якая неўзабаве рассакрэціла сваё існаваньне публікацыяй вывадаў у друку аб праведзеным "вывучэньні" абставінаў падзей. Паводле "вывадаў" камісіі міліцыя быццам бы не ўжывала ні сьлёзацечных газаў, ні дубінак, ні гвалту, не было вадамётаў, ніхто нібыта на зьвяртаўся ў паліклініку, пракуратуру і г.д. Гэтую публічную ману камісія зафіксавала на палосах газет. Цікава паназіраць, у якой форме яна будзе прасіць прабачэньня ў ашуканых чытачоў. Зрэшты ашукаць нікога не ўдалося. Кіраўніцтва яшчэ раз паказала усім свой узровень і сваё аблічча.

9 лістапада 1988 г. адбылося паседжаньне Грамадскай рады "Мартыралога Беларусі", на якім быў абмеркаваны ліст у Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР аб падзеях 30-га кастрычніка ў Менску. У ім гаварылася аб неабходнасьці даць ацэнку дзеяньням мінскіх гарадскіх улад, прыняць меры. У канцы сьнежня мы даведаліся па тэлефоне ад сакратара Мінгарвыканкама Л.Валодзькінай, што наш ліст у цэласьці і непашкоджанасьці прыбыў з Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у ... Мінгарвыканкам. "Якая рэзалюцыя? — Пытаем пасьля доўгай паўзы. "Предлагаю побеседовать с авторами заявления". "Вельмі міла, хто падпісаў?" "Загадчык прыёмнай Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, а прозьвішча не напісана, толькі подпіс — закаручка". Гэтак мы і "побеседовали".

Знаёмства з некаторымі заканадаўчымі пастановамі, думаем, яшчэ дасьць нам магчымасьць "побеседовать" і з закаручкай. Гэтае ж усё паведамляем, каб чытачы маглі даведацца аб некаторых магчымасьцях і метадах апаратнай кансалідацыі ва ўмовах "перабудовы". Ніжэй зьмяшчаем тэкст заявы ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР.

30-го октября сего года около Восточного ( Московского ) кладбища в г.Минске должен был состояться митинг-реквием, приуроченный к наступающему традиционному Дню предков "Дзяды" и посвященный памяти жертв Отечества, которые погибли во времена сталинщины, гитлеровского нашествия, бюрократических военных авантюр. За неделю до митинга Мингорисполком без соответствующих закону юридических обоснований запретил его. В республиканской печати по инициативе и под нажимом партийного руководства республики и города началась организованная кампания политической дискредитации Общества "Мартиролог Белоруссии", охаивание неформальных молодёжных объединений, шельмование интеллигенции, натравливание на нее дезинформированных рабочих, подстрекательство к межнациональной враждебности.

Некоторых членов Общественного совета "Мартиролога" вызывали в райисполком и угрожали применением против них статей Уголовного кодекса БССР о шпионаже, диверсиях, контрреволюционной деятельности и других, по которым были осуждены и репрессированы, сотни тысяч людей во времена сталинщины.

30-го октября массы людей пришли к Восточному кладбищу и к Курапатам, чтобы поклониться памяти, могилам предков и услышать из первых уст правду о новых общественных объединениях. Но к могилам их не пустили милицейские кордоны. Народ встретили водомётными и пожарными машинами, зарешеченными грузовиками-клетками для перевоза арестованных, милицейскими шеренгами и автобусами, внутренними войсками, слезоточивым газом, резиновыми дубинками, машинами скорой медицинской помощи.

Множество одетых в гражданское лиц, которые действовали заодно с милицией, стремились спровоцировать конфликты, брызгали собравшимся в лицо слезоточивой аэрозолью. Людей, особенно активистов Общества "Мартиролог", творческих интеллигентов, журналистов, милиционеры в форме и личности в штатском грубо хватали без причин еще далеко на подходе к кладбищу, лили в лицо слезоточивую аэрозоль, заталкивали в машины и увозили.

Многочисленные шеренги милиционеров по приказу офицеров расчленяли, толкали и топтали народ, даже тех, кто сидел на земле. Были случаи, когда милиционеры били некоторых девушек и юношей, оскорбляли их унизительными словами. И только выдержка, сдержанность, рассудительность и ответственность собравшихся людей предотвратили кровавое побоище, сорвали преступные планы.

Действия руководящих партийных идеологов города и республики, которые предшествовали событиям 30-го октября в Минске, и сами события свидетельствуют о политическом банкротстве этих руководителей, о совершенном неумении существующего республиканского аппарата работать с населением в условиях перестройки, о враждебности его интересам белорусской нации, гласности и демократии.

Силовое выступление против общественности столицы, продемонстрированное руководством города и республики в день почитания умерших предков — это оскорбление памяти людей, памяти похороненных, миллионов погибших и невинно убиенных. Это попрание человеческого достоинства, рецидив сталинщины, массированное выступление бюрократической реакции против перестройки.

30-го октября по приказу руководства физически оскорбили нашу интеллигенцию — разум и совесть нации. Те, кто держат власть, показали, что они не остановятся перед любым приказом, перед применением грубой силы, перед любыми действиями и готовы на всё, только бы осталось всё по старому. Аморальность такого поведения в системе власти приводит к курапатам.

Руководство, которое с позиции силы выступило против гласности и демократии, руководство, которое не может, не умеет и не желает вести открытый диалог с общественностью, такое руководство не пользуется авторитетом, не заслуживает политического доверия.

Мы обращаемся ко всем коммунистам, к тем, кто воспринял перестройку и содействует социальному, национальному и культурному возрождению Белоруссии, с предложением поставить вопрос о соответствии занимаемой должности идеологических партийных руководителей города и республики.

Мы обращаемся к избирателям с предложением отозвать депутата Минского городского Совета Михасёва Владимира Ивановича.

Мы обращаемся к Президиуму Верховного Совета СССР с просьбой рассмотреть правомочие действий Минского горисполкома, который не допустил население на могилы в день памяти предков "Дзяды", целесообразность принятых мер, обоснованность применения слезоточивого газа и резиновых дубинок органами внутренних дел и КГБ БССР.

Мы протестуем против организованного шельмования и насилия и просим дать оценку действиям минских городских властей, руководства внутренних дел республики и принять меры.

Общественный совет Белорусского историко-просветительского общества памяти жертв сталинизма "Мартиролог Белоруссии"

Минск, 9 ноября 1988 года.

# Чаму Менск стаў Мінскам?

Пра сталіцу Беларускай ССР можна атрымаць многія зьвесткі ў энцыклапедычным даведніку "Минск". Ды толькі дарэмным будзе шукаць у гэтай, здавалася б, салідней кнізе тлумачэньняў адносна пераўтварэньня старажытнаславянскай назвы горада Менск у Мінск.

Большасьць сучасных дасьледчыкаў лічыць, што гэтае даўняе найменьне зьвязана з назваю ракі Менкі, на якой стаяў летапісны Мѣньск, згаданы ўпершыню ў "Аповесьці мінулых часоў" пад 1067 годам (В.Нерознак.Названия древнерусских городов.-М.,1983). На старонках беларуска-літоўскіх летапісаў (ПСРЛ, тт.32,35) можна прачытаць назвы "Менск", "Меньск", "Менеск". У актавых матэрыялах Вялікага княства Літоўскага, якія пісаліся на старабеларускай мове, слова "Менск" ужывалася да ХУП стагодзьдзя, у другой палове якога, калі справаводства было пераведзена на польскую мову, яно паступова зьнікае з дакументальных запісаў. Пачынае ўжывацца польская яго транскрыпцыя — "Mińsk", а каб хто не зблытаў горад зь Міньскам Мазавецкім, то часам пісалі назву Міньск Літэўскі.

З далучэньнем у канцы ХУШ стагодзьдзя тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі, царскія чыноўнікі чыста механічна перапісалі назву "польскаго" города "Минскъ" на тагачасныя карты Расіі. У такім варыянце назва нашай цяперашняй сталіцы праіснавала да 1917 года. Толькі са стварэньнем рэальных умоў для адраджэньня народа, яго культуры, звычаяў узьнікла магчымасьць пазбыцца цэнзарскіх рагатак і ў дачыненьні традыцыйных назваў мясцовасьцяў: на старонках беларускамоўнага друку ўсё часьцей сустракаецца назва Менск.

У афіцыйных дакументах Савецкай улады гэта назва горада ўпершыню была скарыстаная 1 студзеня 1919 года ў "Маніхвэсьце часовага работніча-сялянскага правіцельства Беларусі". А пасьля гэтага ў беларускамоўным друку, незалежна кірылічным пісьмом ці лацінкай, запанавала адроджаная назва Менск. Яна была юрыдычна замацавана ў Канстытуцыі БССР 1927 года: "Сталіцай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі зьяўляецца горад Менск". Новая Канстытуцыя 1938 года, прынятая ў самыя змрочныя часы сталіншчыны, паўтарыла гэтую назву сталіцы нашае рэспублікі ў артыкуле 121. Цікава, што ў 39-м томе "Большой Советской Энциклопедии" (М.,1938) артыкул,прысьвечаны сталіцы БССР, пачынаецца такімі словамі: "Минск (по белорусски Менск...)"

Ды раптам у сярэдзіне 1939 года назва Менск зьнікае са старонак газет, даведнікаў, беларускіх картаў і іншых друкаваных выданьняў. Чаму і як гэта здарылася?

Архівы пра гэта пакуль маўчаць. У тагачасных газетах пра перайменаваньне было зьмешчана толькі некалькі сухіх радкоў. Зрэшты, гадаць пра тое шмат не даводзіцца. Рэпрэсіям падвяргаліся не толькі людзі. Рашэньне аб зьмене назвы сталіцы рэспублікі прыня-

ла 2-я сесія Вярхоўнага Савета БССР, якая праходзіла 25-29 ліпеня 1939 года. Вось радкі са стэнаграфічнай справаздачы: "Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР таксама прызнаў неабходным зьмяніць існуючае найменаваньне сталіцы БССР, устанавіўшы найменаваньне "Мінск" замест "Менск"... Хто за ўтвярджэньне пункта 7-га праекта, прашу падняць рукі. Апусьціце. Хто супраць? Няма. Хто ўстрымаўся? Няма. Зацьвярджаецца аднагалосна". Вось і ўсё. Так быў зьменены артыкул 121 Канстытуцыі БССР. Абыйшлося без тлумачэньняў, у дэпутатаў не узьнікла запытаньняў. "Прэзідыум... прызнаў неабходным". У той час — ці толькі ў той? — гэтага было дастаткова. Хто з дэпутатаў у тым вінен? Кожны зь іх добра ведаў, што ў Курапатах — колькі такіх мясьцін было на нашай зямлі? — кожны дзень працаваў жахлівы канвеер сьмерці. Таму любое пытаньне магло стаць апошнім. Злаcьлівым сімвалам было і тое, што на гэтай сесіі, таксама аднагалосна, быў зацьверджаны на пасаду наркама НКУС будучы кат народаў Беларусі Л.Цанава.

Кузьма Чорны ў нататніку "Мова" зрабіў запіс, які крыху можа высьвеціць сутнасьць гэтае справы: "Людзі, якія не ведаюць ні законаў мовы, ні гісторыі Беларусі, ні самой мовы — ні беларускай, ні польскай і ні рускай (жаргон, на якім яны гавораць і пішуць, нельга назваць мовай) здолелі, на вялікі жаль, устанавіць правіла пісаць не Менск і не Навагрудак, як пішацца ў рускіх, беларускіх, славянскіх летапісах, а "Мінск", "Навагрудак", гэта значыць — у польскім вымаўленьні. І гэтыя людзі шчыра верылі, што яны змагаюцца гэтым мерапрыемствам з уплывам польскай мовы на мову беларускую..." Дарэчы, сам Кузьма Чорны да апошніх дзён свайго жыцьця (памёр ён у 1944 годзе) ужываў назву "Менск" (Полымя. 1965, № 4).

Сёлетні год — саракавы пасьля тае сесіі Вярхоўнага Савета БССР. І было б глыбока сімвалічным — сапраўды дэмакратычнай праявай у жыцьці грамадства, каб гэты "юбілей" адзначыўся рэабілітацыяй старажытнай назвы "Менск", бо гэта наша гісторыя, памяць народа, усьведамленьне спрадвечнасьці, а, значыць, і трываласьці на гэтай зямлі.

Уладзімір Дзянісаў, гісторык.

## ведамасьці

ВЫБАРЫ. Нядаўна адбыўся партсход у ЦНДІ механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі, на якім зьверху прапанавалі выбраць кандыдатам у дэпутаты першага сакратара кампартыі БССР Я.Я.Сакалова. З 170 усіх прысутных камуністаў 5 галасавалі за Сакалова, астатнія супраць. З трэскам праваліласа гэтая кандыдатура і ў напаўсакрэтнай арганізацыі "Цэнтр", а таксама ў Берасьці. Тады пачалі выстаўляць кандыдатуру 1-га сакратара ў калгасах Берасьцейскай вобласьці, там, дзе людзі яшчэ не прачнуліся да перабудовы. Гэткім чынам Сакалову таксама ўдалося працісьнуцца да выбараў. Апёкшыся, партакратыя не надта імкнецца цяпер тыя грамадскія сходы рабіць.

ЗГАВОРВАЮЦЦА. У большасьці арганізацыяў, дзе ёсьць групы падтрымкі БНФ кандыдатамі праходзяць, як правіла, тыя людзі, якіх рэкамендуе фронт. Партыйныя чыноўнікі замітусіліся, стараюцца выставіць сваіх кандыдатаў па ўсіх магчымых зьвеньнях. Стала вядомай іх устаноўка — любымі сродкамі не дапусьціць да выбараў кандыдатуры БНФ і Мартыралога.

ВАЛЬНЫ СОЙМ. 14-15 студзеня гэтага году ў Вільні адбыўся II-гі Вальны сойм беларускіх маладзёжных суполак гісторыка-краязнаўчага накірунку. Прыехала каля 400 дэлегатаў ад больш чым 60-ці суполак з Беларусі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Масквы. Прысутнічалі украінцы, прадстаўнікі з "Саюдзіса", карэспандэнты. Упершыню за дзесяткі гадоў сталінісцкага рабства наша моладзь, дзякуючы прыхільнасьці нашых сяброў-літоўцаў, уздыхнула свабодна на вуліцах сваёй старадаўняй сталіцы і сьвятыя бел-чырвона-белыя нацыянальныя сьцягі лунаді над іх галовамі. Зала, дзе праходзіў сойм, нагадвала квяцісты луг з бела-чырвоных красак. На сцэне плакат: пад нашым агульным з літоўцамі гербам Пагоні дзьве рукі ў сяброўскім поціску — сімвал гістарычнай дружбы паміж беларусамі, літоўцамі, эстонцамі і латышамі. А на партале сцэны паміж сьцягамі запаветныя словы змаганьня і любові народа — "Жыве Беларусь!"

Сойм прайшоў хараша, інтэлігентна і дзелавіта. Некаторыя нават зьдзіўляліся, калі параўноўвалі гэты сойм з напружанасьцю і нервовасьцю сходаў у Менску. А ўся справа ў тым, што за два дні ніхто не бачыў тут нават на вуліцы ніводнага міліцыянта, ніводнай азызлай,перакошанай ад нянавісьці да ўсяго сьвятога, народнага, беларускага,гаркамаўскай фізіяноміі, не чулі правакатарскага хамства, не было тупаньня і выкрыкаў адурманеных партыйнай прапагандай камсамольцаў і ўсялякага іншага варожага, цёмнага, вандэйскага сьвінства, што стала нормай у паводзінах мінскай бюракратыі.

(Цікава, што калі суполкі зьвярнуліся ў Мінгарвыканкам з просьбай выдзеліць залу і дазволіць правесьці Сойм у Менску, ім фармальна нібыта дазволілі, але на ўмовах для іх заведама непрыймальных. Кажуць, што менская міліцыя ўжо пачала нават рыхтаваць правакатараў і фармаваць пагромн[illegible]цы).

Сойм прыняў рэзалюцыю аб утварэньні Канфедэрацыі беларускіх маладзёжных суполак гісторыка-краязнаўчага накірунку, зацьвердзіў праграму працы, выбраў каардынацыйны орган — Раду ўпаўнаважаных, а таксама падтрымаў прынцыпы і ідэі Беларускага народнага фронту за перабудову "Адраджэньне". Вальны Сойм выказаўся за тое, каб Канфедэрацыя стала маладзёжным адзьдзелам БНФ "Адраджэньне".

ЖАЛЬБІНЫ. Сябрамі "Мартыралогу Беларусі" рыхтуюцца ў Менску Дні жальбы (Жальбіны), пасьвечаныя памяці бязьвінных ахвяраў сталіншчыны. Мяркуецца наладзіць выставы, прагляд кінафільмаў, відэастужак, праслухоўваньне фанаграм, сустрэчы з рэпрэсаванымі, абмеркаваньне праблем рэабілітацыі і г.д. Мінчане кажуць, што калі не кінуць супроць народу вадамёты, міліцыю з сьлёзацечным газам, дубінкамі, сабакамі і ўнутраныя войскі, то Жальбіны, пэўна, адбудуцца ў першай палове лютага на працягу тыдня.

ЗЬВЕСТКІ З РСФСР. 23 студзеня гэтага году Уральскае таварыства "Мемарыял" і сьвярдлоўская арганізацыя "Дыскусійная трыбуна" зьбіраліся правесьці ў горадзе Сьвярдлоўску грамадскае слуханьне на тэму "Правы чалавека ў савецкім грамадстве: гісторыя і сучаснасьць". Планаваўся адкрыты і публічны разгляд фактаў, якія б далі аб"ектыўную і ўсебаковую ацэнку сталіншчыне, як сацыяльнай зьяве і як асабліваму перыяду савецкай гісторыі. 19 студзеня Сьвярдлоўскі абком партыі забараніў правядзеньне слуханьня.

ХОЧУЦЬ ДАПАМАГЧЫ. Увесь час пытаюцца, куды, на які рахунак прысылаць грошы на стварэньне Мартыралогу Беларусі і мемарыяльнага комплексу ў Курапатах. Свайго рахунку таварыства не мае, і мець яго не будзе, пакуль улада ў рэспубліцы знаходзіцца

ВАЛЬНЫ СОЙМ. 14-15 студзеня гэтага году ў Вільні адбыўся II-гі Вальны сойм беларускіх маладзёжных суполак гісторыка-краязнаўчага накірунку. Прыехала каля 400 дэлегатаў ад больш чым 60-ці суполак з Беларусі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Масквы. Прысутнічалі ўкраінцы, прадстаўнікі з "Саюдзіса", карэспандэнты. Упершыню за дзесяткі гадоў сталінісцкага рабства наша моладзь, дзякуючы прыхільнасьці нашых сяброў-літоўцаў, уздыхнула свабодна на вуліцах сваёй старадаўняй сталіцы і сьвятыя бел-чырвона-белыя нацыянальныя сьцягі луналі над іх галовамі. Зала, дзе праходзіў сойм, нагадвала квяцісты луг з бела-чырвоных красак. На сцэне плакат: пад нашым агульным з літоўцамі гербам Пагоні дзьве рукі ў сяброўскім поціску — сімвал гістарычнай дружбы паміж беларусамі, літоўцамі, эстонцамі і латышамі. А на партале сцэны паміж сьцягамі запаветныя словы змаганьня і любові народа — "Жыве Беларусь!"

Сойм прайшоў хараша, інтэлігентна і дзелавіта. Некаторыя нават зьдзіўляліся, калі параўноўвалі гэты сойм з напружанасьцю і нервовасьцю сходаў у Менску. А ўся справа ў тым, што за два дні ніхто не бачыў тут нават на вуліцы ніводнага міліцыянта, ніводнай азызлай,перакошанай ад нянавісьці да ўсяго сьвятога, народнага, беларускага,гаркамаўскай фізіяноміі, не чулі правакатарскага хамства, не было тупаньня і выкрыкаў адурманеных партыйнай прапагандай камсамольцаў і ўсялякага іншага варожага, цёмнага, вандэйскага сьвінства, што стала нормай у паводзінах менскай бюракратыі.

(Цікава, што калі суполкі зьвярнуліся ў Мінгарвыканкам з просьбай выдзеліць залу і дазволіць правесьці Сойм у Менску, ім фармальна нібыта дазволілі, але на ўмовах для іх заведама непрыймальных. Кажуць, што менская міліцыя ўжо пачала нават рыхтаваць правакатараў і фармаваць пагромн[illegible]цы).

Сойм прыняў рэзалюцыю аб утварэньні Канфедэрацыі беларускіх маладзёжных суполак гісторыка-краязнаўчага накірунку, зацьвердзіў праграму працы, выбраў каардынацыйны орган — Раду ўпаўнаважаных, а таксама падтрымаў прынцыпы і ідэі Беларускага народнага фронту за перабудову "Адраджэньне". Вальны Сойм выказаўся за тое, каб Канфедэрацыя стала маладзёжным адзьдзелам БНФ "Адраджэньне".

ЖАЛЬБІНЫ. Сябрамі "Мартыралогу Беларусі" рыхтуюцца ў Менску Дні жальбы (Жальбіны), пасьвечаныя памяці бязьвінных ахвяраў сталіншчыны. Мяркуецца наладзіць выставы, прагляд кінафільмаў, відэастужак, праслухоўваньне фанаграм, сустрэчы з рэпрэсаванымі, абмеркаваньне праблем рэабілітацыі і г.д. Мінчане кажуць, што калі не кінуць супроць народу вадамёты, міліцыю з сьлёзацечным газам, дубінкамі, сабакамі і ўнутраныя войскі, то Жальбіны, пэўна, адбудуцца ў першай палове лютага на працягу тыдня.

ЗЬВЕСТКІ З РСФСР. 23 студзеня гэтага году Уральскае таварыства "Мемарыял" і сьвярдлоўская арганізацыя "Дыскусійная трыбуна" зьбіраліся правесьці ў горадзе Сьвярдлоўску грамадскае слуханьне на тэму "Правы чалавека ў савецкім грамадстве: гісторыя і сучаснасьць". Планаваўся адкрыты і публічны разгляд фактаў, якія б далі аб"ектыўную і ўсебаковую ацэнку сталіншчыне, як сацыяльнай зьяве і як асабліваму перыяду савецкай гісторыі. 19 студзеня Сьвярдлоўскі абком партыі забараніў правядзеньне слуханьня.

ХОЧУЦЬ ДАПАМАГЧЫ. Увесь час пытаюцца, куды, на які рахунак прысылаць грошы на стварэньне Мартыралогу Беларусі і мемарыяльнага комплексу ў Курапатах. Свайго рахунку таварыства не мае, і мець яго не будзе, пакуль улада ў рэспубліцы знаходзіцца

Цяпер менскія міліцэйскія чыны тэлефануюць некаторым пацярпелым ад газу, хамства, дубінак і мякенькімі галасамі запрашаюць прыйсьці ў пастарунак, не тлумачачы прычын. Некаторыя дзеля цікаўнасьці прыходзілі. Тады ў іх міліцыянты прасілі прабачэньня. Маўляў, "извините", мы вас трошкі пабілі і газам трошкі таго... "За нетактичное поведение милиции в отношении отдельных граждан им принесены извинения должностными лицами УВД Мингорисполкома", -- паведамляе ў лісьце Зянону Пазьняку начальнік адзьдзела агульнага нагляду Пракуратуры БССР. Дарэчы, у З.Пазьняка ніхто прабачэньня не прасіў. Але справа не ў гэтым. Прабачэньні павінны быць надрукаваны ў тых жа газетах, у якіх сьпярша друкавалася тая міліцэйска-бюракратычная мана. Заадно і ў чытачоў варта папрасіць прабачэньня за ашуканства. Па-другое, прабачэньні пад прымусам гэта адно, а крымінальнае правапарушэньне па артыкулу І67, ч.2, КК БССР — іншае. І адказываць прыдзецца. Яны, бачыце, дадумаліся выклікаць пацярпелых, каб сказаць свае прабачэньні. Якая галантнасьць. 30 кастрычніка зьняважылі не толькі наш народ, але і сьвятую памяць нашых продкаў, замучаных, забітых, закатаваных сталінскімі вылюдкамі.

## ЗЬМЕСТ




Выпуск падрыхтавалі: Зянон Пазьняк, Уладзімір Крукоўскі, Ірына Марачкіна - старэйшая. Рукапіс складзены 22 студзеня гэтага году у Менску.